

№ 33 (194)
Верасень 2007 года

# Краязнаўчая газета

Выдаецца з красавіка 2003 года

***Малыя і сярэднія гарадскія паселішчы Беларусі з'яўляюцца своеасаблівымі цэнтрамі прастораваі арганізацыі сельскіх раёнаў, культурных і прамысловых цэнтраў. Многія з іх маюць багатую гісторыю і гісторыка-культурную спадчыну, якія дазваляюць развіваць іх яшчэ і як цэнтры турызму. Аднак для стварэння паўнацэннага турпрадукту ў малых і сярэдніх гарадах мае значэнне рацыянальнае выкарыстанне існуючых рэсурсаў.***

***Сёння ў Рэспубліцы Беларусь з 212 гарадоў большасць падпадае пад катэгорыю сярэдніх (26 гарадоў з насельніцтвам 20–100 тыс. жыхароў) і малых (173 гарадскія пасёлкі з насельніцтвам да 20 тыс. жыхароў).***

***У краіне настаў час усведамлення, што развіццё турызму павінна базіравацца на рэгіянальным аспекце. «Нацыянальная праграма развіцця турызму Рэспублікі Беларусь на 2006–2010 гг.» прадугледжвае фарміраванне сеткі турысцкіх цэнтраў нацыянальнага і рэгіянальнага значэння.***

*Пра Шклоў, які сёлета прымае Дзень беларускага пісьменства, чытайце на стар. 5, 6*

## 2 верасня – Дзень беларускага пісьменства





## 1 верасня – Дзень ведаў і дзень роднага краю

Традыцыйна Дзень ведаў у Беларусі адзначаны адметнымі ўрокамі, прысвечанымі гісторыі і культуры нашай краіны. Тэма сёлетняга першага ўрока гучыць «Мой родны край, як ты мне мілы».

Паводле словаў галоўнага інспектара ўпраўлення сацыяльнай і выхаваўчай працы Міністэрства адукацыі Ларысы Емяльянчык, сёлета з боку педагогаў і вучняў вялікая ўвага будзе нададзена 125-годдзю народных паэтаў Беларусі Янкі Купалы і Якуба Коласа. Фармаванню адданасці выбранай справе, павагі да працоўнага чалавека, любові да сваёй зямлі і яе каштоўнасцяў будзе спрыяць далучэнне да творчай спадчыны класікаў нашай літаратуры. Традыцыйна на падобныя ўрокі запрашаюцца пісьменнікі, кнігавыдаўцы, выбітныя асобы. Зазначыла Л. Емяльянчык і пра тое, што цягам году ў навучальных установах будуць праходзіць паэтычныя чытанні, святы, фестывалі, конкурсы, прысвечаныя роднаму краю.

*Паводле матэрыялаў перыядычнага друку*

## Юбілейнаму гораду – юбілейны гадзіннік!

Незвычайны падарунак падрыхтавалі землякам спецыялісты ўпраўлення «Цэнтр» прадпрыемства «Мінскзеленбуд». На бетоннай падушцы перад нядаўна адбудаванай ратушай усталяваны гадзіннікавы механізм, закрыты спецыяльнымі кратамі. Гадзіннік будзе адмяраць святочны мінскі час не толькі ў дні 940-годдзя з дня першай узгадкі пра старажытны Менск-Менеск. Да слова сказаць, падобныя кветкавыя гадзіннікі ёсць у многіх гарадах Заходняй Еўропы.



Каб не ствараць памехаў для руху стрэлак на незвычайным лічбоўніку, спецыяльна падабраныя нізкарослыя расліны – бягонія і цынерарыя.

*Паводле паведамленняў прэсы*

## З любоўю да гісторыі Беларусі

«Сучасны чалавек знаходзіцца перад гімалаямі кніг у становішчы шукальніка золата, якому трэба адшукаць крупінкі золата у масе пяску»

**С.М. Вавілаў, акадэмік АН СССР**

**Амаль кожны жыхар мікрараёна Шабаны горада Мінска добра ведае дарогу да бібліятэкі № 3 імя У. Маякоўскага, размешчанай па вуліцы Сяліцкага, 103. Для многіх наведвальнікаў гэтай культурнай установы пачаўся доўгі шлях у цудоўную краіну ведаў, захапляючых падарожжаў і прыгод, цікавых фактаў і неверагодных, а часам невытлумачальных з'яў і здарэнняў. Бібліятэка з'яўляецца своеасаблівым магнітам, які прыцягвае людзей розных узроўняў адукацыі, прафесій і зацікаўленняў. Усе, хто наведвае бібліятэку, знаходзяць тут добрых сяброў, аднадумцаў, паплечнікаў, дарадцаў. Сюды прыходзяць па мастацкую, навуковую і вузкаспецыяльную літаратуру, выданні па розных галінах ведаў. Тут чытачы знаёмяцца з рознымі тэматычнымі выстаўкамі, прысвечанымі знамянальным і памятным датам у гісторыі і культуры Беларусі.**



Перш чым пераехаць на сталае размяшчэнне ў новы будынак у мікрараён Шабаны, бібліятэка прайшла вялікі і складаны шлях станаўлення і развіцця.

Лічыцца, што часам заснавання бібліятэкі з'яўляецца 1932 год. У гісторыі нашай краіны гэта быў час пераўтварэння і развіцця шпаркімі тэмпамі прамысловасці і сельскай гаспадаркі, культуры, адукацыі і аховы здароўя. А каб далей рухацца, трэба шмат ведаць…

Дзейсным сродкам пашырэння ведаў у народных масах, якія праглі рознабаковых навуковых ведаў, сталі ў той час масавыя бібліятэкі гарадоў і вёсак краіны. Яны былі пераўтвораны ў цэнтры культурна-палітычный асветы народных мас. Дзейнасць бібліятэк прыкметна на той час актывізавалася. Пачалі выкарыстоўвацца новыя формы працы з народнымі масамі: літаратурныя вечары, прысвечаныя памятным і знамянальным датам у гісторыі краіны, тэматычныя кніжныя выстаўкі як самыя эфектыўныя формы работы з насельніцтвам.

Бібліятэчная сетка ў БССР паступова пашыралася: калі ў 1929 годзе працавала 631 бібліятэка, то ў 1932 годзе іх было ўжо 1233, гэта значыць павялічылася амаль у 2 разы з агульным кніжным фондам 2 млн 300 тысяч экземпляраў кніг.

Бібліятэкі прымалі ўдзел у барацьбе з непісьменнасцю, адкрывалі новыя пункты лікбеза, практычна займаліся індывідуальным навучаннем непісьменных, арганізоўвалі калектыўныя чыткі кніг, часопісаў, газет, сустрэчы беларускіх пісьменнікаў і паэтаў з чытачамі.

***(Заканчэнне на стар. 3)***



## На тым тыдні...

● **Прэзентацыя «Горада святога Губерта»** прайшла ў Гродне **15 жніўня**. У трэцім нумары гэтага краязнаўчага альманаха ўздымаюцца праблемы захавання помнікаў гісторыі і архітэктуры, што ўзніклі ў выніку будаўнічых работ, якія вядуцца ў цэнтры горада. Выступоўцы, сярод якіх члены рэдкалегіі альманаха, дактары гістарычных навук Алесь Краўцэвіч і Алесь Смалянчук, аўтары матэрыялаў – гісторык Андрэй Вашкевіч і журналіст Наталля Макушына, засяродзілі ўвагу на прыведзеных ў выданні альтэрнатыўных прапановы па развіцці транспартнай сістэмы Гродна, якія распрацаваны гісторыкамі і краязнаўцамі. Асаблівае шкадаванне было выказана з прычыны знішчэння за апошні год трох помнікаў архітэктуры, а таксама знаходжання цэлага шэрагу старых будынкаў пад пагрозай зносу. Занепакоенасць выклікае запланаваная на 2008 год рэканструкцыя вуліцы імя Э. Ажэшкі, забудаванай у канцы XIX стагоддзя.

● **Да 30 верасня** ў Нацыянальным музеі гісторыі і культуры Беларусі будзе працаваць **выстава мастака Уладзіміра Шаркова «Родны мой горад»**, прысвечаная 940-годдзю Мінска. Для вядомага майстра гарадскога пейзажу Мінск з'яўляецца галоўнай тэмай творчасці. У працах мастак спалучае эмацыянальную выразнасць з яркай дэкаратыўнасцю колеру. На выставе прадстаўлены серыі «Гарадскі альбом», «Міражы Нямігі», «Гісторыя транспарта» (да 125-годдзя грамадскага транспарта), «Мой белы горад».

● **25 жніўня** ў старажытным Заслаўі адбылося традыцыйнае **свята «Заслаўскі кірмаш»**. Госці Дня горада змаглі наведаць Свята кветак і Свята мёду, выставу прадукцыі з прысядзібных участкаў «Цуд-ураджай». На Рынкавай вуліцы працаваў «Горад майстроў». У музеі-запаведніку «Заслаўе» былі выстаўлены працы ўдзельнікаў маладзёжнага фотапленэра. Незабыўным відовішчам сталіся рыцарскія баі, а таксама дэманстрацыя даспехаў і касцюмаў сярэднявечча. Не менш захапляльным было выступленне на канцэртных пляцоўках самадзейных калектываў Заслаўя, Мінска і Мінскага раёна.

● **30 жніўня** ў Нацыянальным музеі гісторыі і культуры Беларусі прайшло адкрыццё выставы **«Дні паўстання – Варшава 1944»**, арганізаванай Польскім Інстытутам у Мінску.



*Фота Ігара МАРАЧКІНА*

## Храм-помнік — храм-напамін

***Цікавая інфармацыя прыйшла з Мазыра. Там у крыпце праваслаўнага сабора будзе створаны храм у гонар навамучанікаў і спавядальнікаў веры, якія ў палескай зямлі заззялі. Пра гэтае паведаміў прэсе загадчык аддзела ўзаемадзеяння з грамадскасцю Тураўскага епархіяльнага ўпраўлення Васіль Чарнякоў.***

Месца абранае невыпадкова, бо тут у 1937 годзе знаходзілася турма НКВД. За гады яе існавання ў крыпце храма былі замучаныя і забітыя болей за 2 тысячы чалавек. Спісы загінулых знаходзяцца ў архіве ўпраўлення КДБ па Гомельскай вобласці.

«У 1992 годзе абласны савет дэпутатаў прыняў пастанову, каб усе месцы пахаванняў ахвяраў сталінскіх рэпрэсіяў прывесці ў парадак, – зазначыў В. Чарнякоў. Адпаведныя ўказанні былі накіраваныя ў гарадскія і раённыя выканкамы. Такіх месцаў пахаванняў у Мазыры некалькі, адно з іх – на гарадскім Кургане славы. Прайшло 15 гадоў, але помнікі ахвярам сталінскага тэрору не паўсталі. Хаця ёсць карта, таксама з архіва беларускіх спецслужбаў, дзе ўсе такія месцы пазначаныя».

Ужо сёння ў крыпце сабора праходзяць службы. Далей, пры пaступленні неабходнага фінансавання, Тураўскае епархіяльнае ўпраўленне плануе ўсталяваць у царкве блізу 2 тысячаў шыльдачак з імёнамі тых, хто бязвінна загінуў у сценах палескай царквы ў час сталінскіх рэпрэсіяў. Храм будзе названы ў памяць аб людзях, пацярпелых за сваю веру ў тыя страшныя гады. Епархія мае таксама інфармацыю пра святароў розных канфесіяў, замучаных у сценах гэтай царквы.

*Паводле матэрыялаў інтэрнета*

## Руіны і Час

У «Доме Ваньковічаў», філіяле Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі, да 7 верасня праходзіць выстава «Антычнасці загадкі і класіцызма век». У экспазіцыі – 27 афортаў 2-й паловы XVIII стагоддзя, якія адлюстроўваюць антычныя руіны Рыма, знакамітыя ваколіцы «вечнага горада». Іх стварыў таленавіты тагачасны маляўнік і гравёр Жан Барбо. Ягонае імя заняло сваё адметнае месца сярод мастакоў, якія апявалі Рым.

Ад эпохі Адраджэння архітэктура становіцца адным з найважнейшых аб'ектаў для графікаў, жывапісцаў, мастакоў-дэкаратараў. Найбольшы росквіт жанру архітэктурнага пейзажа прыпадае на XVIII стагоддзе, атрымлівае найбольшую папулярнасць у Італіі. Тады Рым быў цэнтрам «жывапісу руінаў». Дзіва што: горад ляжаў на развалінах, велічных парэштках двухтысячагадовай гісторыі! Тыя руіны былі і часткаю побыту, і крыніцаю натхнення для мастакоў. Майстры вывучалі старажытны Горад ды імкнуліся ўзнавіць сам Час, які пакінуў след у архітэктуры...

*Паводле матэрыялаў інтэрнету*



*Руіны велічы беларускай... Шмат іх па краіне. Ці дачакаюцца яны сваіх мастакоў? Сваіх рэстаўратараў?..*

## Гульня з агнём

Неасцярожнае абыходжанне з агнём пад час курэння застаецца найбольш распаўсюджанай прычынай узнікнення пажараў у жылым сектары сталіцы. Улетку незатушаныя акуркі як «крылатыя ракеты» ляцяць з балконаў, зімою – падаюць у смеццеправоды. Але ёсць і грамадзяне, якія кураць нават у пасцелі. Даволі часта такія выпадкі заканчваюцца трагічна для бясспечных курцоў, бо калі заснуць з незатушанай цыгарэтай, то можна ўжо і не прачнуцца, паколькі ў сне чалавек не адчувае ніякіх пахаў, у тым ліку паху дыму.

1 жніўня ў 22.16 у адной з мінскіх кватэр на праспекце Ракасоўскага, 32 адбылося ўзгаранне пасцельных прыналежнасцяў у жылым пакоі. Падраздзяленнямі МНС былі выратаваны бацька і сын. З дыягназам «тэрмічныя апёкі абодвух бакоў 1, 2, 3 ступені 2%» апошні быў дастаўлены ў 2-ю гарадскую клінічную бальніцу. Прычына – неасцярожнае абыходжанне з агнём пад час курэння ў нецвярозым стане. Вінаваты – сам 69-гадовы пацярпелы.

## Адгалоскі вайны

Надзвычайнае здарэнне адбылося 19 ліпеня ў 12.45 каля ўвахода ў Музей гісторыі Вялікай Айчыннай вайны. Быў знойдзены 30-мм артылерыйскі снарад часоў Вялікай Айчыннай вайны. Сапёрна-піратэхнічнай групай «Алмаз» снарад быў знішчаны. Разбіральніцтва з прычыны з'яўлення снарада каля музея праводзіць РАУС Цэнтральнага раёна.

2 жніўня ў 08.35 па вул. Палявой, 26 пры правядзенні работ па добраўпарадкаванні тэрыторыі УП «ЖЭС № 26» знойдзена баявая граната часоў ВАВ. Граната знішчана на палігоне.

Паважаныя грамадзяне! Пры выяўленні якіх-небудзь выбуховых альбо невядомых падазроных прадметаў неадкладна паведамляйце па тэлефонах «101» альбо «102».

*Вольга ХВАШЧЭЎСКАЯ, інспектар ЦРАНС*

Ф.СП-1

Міністэрства сувязі Рэспублікі Беларусь

АБАНЕМЕНТ *на газету* 63320 (індэкс выдання)

**Краязнаўчая газета** Колькасць камплектаў

на 200_ год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куды (паштовы індэкс) (адрас)

Каму (прозвішча, ініцыялы)

ПВ | месца | літар

ДАСТАВАЧНАЯ КАРТКА на газету 63320 (індэкс выдання)

**Краязнаўчая газета**

| Кошт | падпіскі ________руб. | Колькасць камплектаў |
|---|---|---|
| | перaадрасоўкі ________руб. | |

на 200_ год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куды (паштовы індэкс) (адрас)

Каму (прозвішча, ініцыялы)







# З любоўю да гісторыі Беларусі

## З гісторыі бібліятэкі № 3 імя У.У. Маякоўскага г. Мінска

*(Заканчэнне. Пачатак на стар. 1)*

Бібліятэка імя У. Маякоўскага стала трэцяй па ліку масавай бібліятэкай ў горадзе Мінску. У 1938 годзе ў сувязі са значным ростам насельніцтва горада (яно налічвала на той час 218 тысяч чалавек) і неабходнасцю прыбліжэння Саветаў народных дэпутатаў да народных мас, Прэзідыум ЦВК БССР пастанавіў ад 17 сакавіка 1938 года стварыў на тэрыторыі горада Мінска тры адміністрацыйна-тэрытарыяльныя раёны: Варашылаўскі (з 2 лістапада 1961 года стаў Савецкім), Кагановіцкі (з 20 ліпеня 1957 года стаў Кастрычніцкім), Сталінскі (з 2 лістапада 1961 года стаў Заводскім). Бібліятэка № 3 трапіла ў Сталінскі раён горада.

У гады Вялікай Айчыннай вайны ўвесь кніжны фонд бібліятэкі быў знішчаны нямецка-фашысцкімі захопнікамі. У аснову пасляваенных кніжных фондаў бібліятэк № 3 імя У.У. Маякоўскага, № 1 імя Л.М. Талстога і № 2 імя Н.К. Крупскай ляглі кнігі, сабраныя добраахвотнікамі (працоўнымі Масквы, Ленінграда) і прывезеныя ў Мінск спецыяльным эшалонам.

Захавалася выпіска з пасяджэння выканкама Сталінскага райсавета дэпутатаў працоўных ад 21 сакавіка 1946 года («О работе районной библиотеки»). У сувязі з тым, што гэты дакумент мае гістарычную каштоўнасць, ён тут цытуецца поўнасцю:

*Заседание Исполкома Сталинского райсовета Депутатов трудящихся от 21.03.46 г.*

*П.105. О работе районной библиотекн. Докладчик: зав. биб-кой тов. Спановская.*

*Содокладчик: тов. Хозан.*

*Районная библиотека насчитывает 2493 книги, в том числе 237 книг художественной литературы, 611 – политической, 1273 – разн. брошюр и литературы по естествознанию, 372 книги для школьников младших классов и дошкольников. Кроме того, в библиотечный фонд учащимися внесено 400 книг. Читателями районной библиотеки, главным образом, являются учащиеся 4-й, 29-й школ в возрасте от 8 до 16 лет, которых зарегистрировано 275 человек, учителя указанных школ и работники мясокомбината. Всего обслуживает библиотека 305 человек. Средняя читаемость составляет 50–80 чел. в день.*

*Исполком отмечает, что вся работа сводится к тому, чтобы обменять книгу. Массовой работы вокруг книги – литературные диспуты с учащимися старших классов, обсуждение прочитанного, объяснение непонятных в книге мест – библиотекой не проводится. Учителя литературы к работе библиотеки не привлекаются. Библиотекой ни разу не организованы встречи молодых читателей с писателями республики. Библиотека не имеет читальной комнаты.*

*Необходимо также отметить, что условия, в которых находится библиотека, исключительно плохие. Площадь занимаемого помещения составляет 10 кв. м, где едва размещаются три небольших шкафа, стол и стул, выданные во временное пользование школой, а своей мебели библиотека не имеет.*

*Исполком считает ненормальным явление, когда библиотечное помещение систематически не отапливается. В библиотеке отсутствуют картины, портреты писателей-классиков, литмонтажи и витрины новейшей литературы.*





*Исполком считает нетерпимым такой факт, когда 12 тыс. рублей, ассигнованных для приобретения книг, мебели и оборудования, а также на хоз. расходы на 1945 г. были отпущены только в конце декабря 1945 г., вследствие чего библиотекой не использовано около 2-х тыс. руб.*

*В целях улучшения работы районной библиотеки Исполком Райсовета РЕШИЛ:*

*1. Возвратить библиотеке довоенное помещение, ныне занимаемое под личное жильё директором 4-й школы.*

*2. Обязать Райфо регулярно субсидировать райбиблиотеку средствами на приобретение книг, мебели и оборудования.*

*3. Обязать зав. биб-кой тов. Спановскую изыскать возможность и изготовить через предприятия р-на необходимое количество столов, стульев и шкафов.*

*4. Обязать зав. биб-кой тов. Спановскую 1/1-с/г открыть читальную комнату, а также оборудовать и украсить помещение библиотеки.*

*5. В целях увеличения читательского актива, организовать систематические обсуждения наиболее интересных книг с привлечением педагогов-литераторов.*

*6. Обязать зав. биб-кой тов. Спановскую упорядочить каталог и картотеку формальными паспортами, а также завести журнал впечатлений о прочитанной книге.*

У справаздачы бібліятэкі № 3 за 1947 год яна афіцыйна названа – бібліятэка № 3 імя У.У. Маякоўскага, якая з годнасцю нясе светлае імя «агітатора, горлана, главаря» аж да нашых дзён. У гэтай справаздачы адзначаецца, што на той час агульная плошча, якую займала бібліятэка, складала 82 кв. метра. Бібліятэка абслугоўвала за год 1260 чытачоў, з іх 320 чалавек – дзеці да 16 гадоў.

За 1947 год было выдадзена 2545 кніг. У справаздачы бібліятэкі за 1949 год указваецца адрас, дзе мясцілася бібліятэка: г. Мінск, вул. Палявая, 3. Колькасць чытачоў на той час складала 2137 чалавек. Пасаду загадчыка бібліятэкі на той час займала Пазднякова.

У 1951 годзе бібліятэка размяшчалася на вуліцы Рабочая, 11, у 1952 годзе па вуліцы Палярная, 69. У справаздачы за 1954 год указваецца, што бібліятэка № 3 імя У.У. Маякоўскага знаходзіцца па адрасе: г. Мінск, вул. Серафімовіча, 21. Бібліятэка мела абанемент, чытальную залу, перасоўны фонд. Агульны кніжны фонд складаў каля 23 тысяч кніг. Бібліятэка абслугоўвала за год 4210 чытачоў. Асабліва цесныя сувязі бібліятэкі ўстанавіліся з фабрыкай «Камунарка», Мінскім мотавелазаводам, сярэднімі школамі і прафесійнымі вучылішчамі, якія знаходзіліся ў гэтым мікрараёне.

У 1958 годзе бібліятэка размяшчалася па адрасе: г. Мінск, вул. Велазаводская, 4. У 1961 годзе яна займала плошчу 295 кв. метраў, мела фонд звыш 43 тысяч кніг. У 1965 годзе яна была пашырана: мела чытальную залу, дзіцячы аддзел, філіялы і кнігаперасоўкі, абслугоўвала самыя аддаленыя куткі свайго мікрараёна. У штаце бібліятэкі налічвалася 7 супрацоўнікаў. Паслугамі бібліятэкі карысталіся 5 603 чытачы. Загадчыцай бібліятэкі на той час была А.А. Маторнава.

У 1979 годзе была створана Цэнтралізаваная сістэма дзяржаўных масавых бібліятэк (ЦБС), якая абслугоўвала дарослае насельніцтва Мінска, з адзіным кніжным фондам, штатам, адміністрацыяй і метадычным кіраўніцтвам. У гэтую бібліятэчную сістэму ўвайшла бібліятэка № 3 імя У.У. Маякоўскага. На той час яна размяшчалася па вул. Рыбалка, 2 і займала плошчу 416 кв. метраў.

З 1991 года бібліятэку ўзначаліла Таццяна Васільеўна Усціновіч. У 1992 годзе адрас бібліятэкі зноў мяняецца. Яна пераязджае ў новы мікрараён Шабаны на вуліцу Сяліцкага, 103. На вуліцы Рыбалка, 2 застаецца філіял бібліятэкі.



Так пачалася новая старонка жыцця бібліятэкі № 3. Наперадзе – шмат цікавых спраў: падрыхтоўка выставак, сустрэчы з цікавымі людзьмі, арганізацыя свят – усё гэта ўваходзіла ў планы на будучыню.

Праца супрацоўнікаў бібліятэкі не аднойчы адзначалася граматамі і дыпломамі адміністрацыі Заводскага раёна, грамадскіх арганізацый.

Калектыў бібліятэкі праводзіць вялікую працу па папулярызацыі літаратуры ў маладзёжным асяроддзі. З той нагоды ў бібліятэку на сустрэчу з вучнямі сярэдніх школ мікрараёна запрашаюцца беларускія пісьменнікі і паэты. Вялікую ўвагу супрацоўнікі бібліятэкі надаюць экалагічнаму выхаванню насельніцтва мікрараёна, пытанням здаровага ладу жыцця. Калектыў бібліятэкі пастаянна шукае новыя формы і метады працы.

У наш час вялікая ўвага надаецца вывучэнню гісторыі Беларусі. Гэта вельмі важна, бо гістарычная адукаванасць займае значнае месца ў жыцці грамадства і сведчыць пра пераемнасць маральнасці і патрыятызму. Вывучэнне гісторыі стымулюе інтэлектуальнае развіццё асобы. Гэта асабліва актуальна для маладога пакалення. Добра разумеючы тое, калектыў бібліятэкі з 2006 года сваю культурна-масавую працу арганізоўвае ў рамках праекта «Наша гісторыя – ідэі, асобы, падзеі». На сустрэчы з вучнямі школ запрашаюцца гісторыкі, краязнаўцы, археолагі, пісьменнікі. Супрацоўнікамі бібліятэкі афармляюцца кніжныя выстаўкі гістарычнай тэматыкі, фарміруюцца інфармацыйныя пакеты для больш дасканалага выканання запытаў карыстальнікаў.

З мая 2005 года бібліятэка абслугоўвае карыстальнікаў у аўтаматызаваным рэжыме. Для пашырэння прававых ведаў насельніцтва мікрараёна ў бібліятэцы ўстаноўлена база даных Нацыянальнага цэнтра прававой інфармацыі «ЭТАЛОН WIN». За 2005–2006 гады базай карысталіся 166 чалавек, было знойдзена 422 дакументы. У бібліятэцы адкрыты доступ да зводнага электроннага каталогу ЦСДПБ, які ўключае 222 тысячы бібліяграфічных запісаў. Акрамя гэтага прапаноўваюцца яшчэ чатырнаццаць платных паслуг.

На 1 студзеня 2007 года фонд бібліятэкі налічваў 60608 экземпляраў. З іх: 33703 – мастацкая літаратура, 4187 – часопісы і газеты. Карыстальнікамі бібліятэкі сталі 6804 чалавекі, 45 % ад гэтай колькасці складае моладзь, якая навучаецца.

***Час не стаіць на месцы, хутка ўкараняюцца ў жыццё апошнія дасягненні навукі і тэхнікі, падрастае новае дапытлівае пакаленне. Таму калектыў удасканальвае свой прафесійны ўзровень, каб упэўнена ісці ў ногу з часам.***

*Анатоль* ***ВАЛАХАНОВІЧ***












*(Працяг. Пачатак у №№ 3–32)*

9 студзеня Купала камандзіруецца ў Мінск як вядомы спецыяліст для арганізацыі Камісарыята харчавання Беларускай рэспублікі, але пры такім зусім не літаратурным занятку ён просіцца на больш зручную для сябе працу, у бібліятэку пры Беларускім народным доме. А там пачынае дбаць пра выданне свайго поўнага збору твораў, каб больш скампанавана прадставіць чытачу сваю творчасць, якой было ўжо аддадзена не менш паўтара дзесятка гадоў. У віленскай газеце «Bielaruskaje zyccio» № 1 былі змешчаныя яго новы верш, партрэт і нататка пра яго побыт, а таксама рэцэнзія Ф. Аляхновіча на «Раскіданае гняздо», і разам з тым, на жаль, паведамлялася, што з прыходам у Вільню польскіх войск многія Купалавы рукапісы новымі ўладамі былі забраныя і, магчыма, знішачаныя.

8 жніўня польскія войскі ўвайшлі ў Мінск. На сустрэчы з асобнай беларускай дэлегацыяй польскі галоўны начальнік Ю. Пілсудскі выступаў па-беларуску (гэтым выклікаў незадаволенасць польскіх вайскоўцаў і цывільных улад), рабіў пэўныя намёкі пра нібыта справядлівае вырашэнне беларускага пытання і таксама нібыта шукаў сустрэчы з Купалам.

На сёння вядома, што Купала вярнуўся ў Мінск каля 1 верасня, займаўся бібліятэчнай і тэатральнай справай (быў загадчыкам бібліятэкі пры Беларускім народным доме), у розных выданнях друкаваў свае вершы, даволі рэзкія артыкулы («Акупанты на шэсць месяцаў», «Больш самачыннасці», «Беларускае войска», «Будуецца беларускае гаспадарства», «За цэласць Бацькаўшчыны» і інш.) і некаторы час рэдагаваў часопіс «Звон», дзе асабліва не ўхваляў як савецкую, так і польскую нацыянальную палітыку.

Разам з тым у гэты час Купала не замыкаецца «на нашай гаспадарцы», блізка далучаны да ўкраінскай, польскай і рускай літаратуры – скажам, у Маскве пачала рыхтавацца да друку яго першая кніга на рускай мове «Избранные произведения в переводах русских поэтов» (выйшла ў сакавіку наступнага года), а сам ён у кастрычніку пад апякунствам Я. Карскага скончыў празаічны пераклад «Слова пра паход Ігара». 21 кастрычніка таго ж, 1919-га, года ў Мінску беларускія нацыянальныя суполкі, якія маглі хоць мінімальна дзейнічаць ва ўмовах белапольскай акупацыі, здолелі пачаць выдаваць штодзённую газету «Беларусь», дзе Купала, як і Колас, актыўна друкуецца, спрыяе, каб новае выданне далей працягвала найперш традыцыі «Нашай Нівы», аб'ядноўвала нацыянальныя палітычныя партыі і гурткі, якія адстойвалі ідэі незалежнай Беларусі, выкрывала белапольскія хітрыкі, пісала пра неабходнасць стварэння беларускага войска, пра шляхі аднаўлення прамысловасці і сельскай гаспадаркі, змяшчала шмат матэрыялаў на тэмы гісторыі і культуры.

Пачатак 1920 года не парадаваў Купалу: ён быў вымушаны легчы ў шпіталь на аперацыю з-за перытаніту (запаленне жывата).

# Педагагічныя клопаты Якуба Коласа аб прафесійнай падрыхтоўцы настаўнікаў роднай мовы

## (на матэрыяле эпісталярнай спадчыны)

***У маі 1921 года Якуб Колас па запрашэнні НК (народнага камісарыята. – Рэд.) асветы БССР вяртаецца на радзіму з Расіі. Вяртаецца ў час найвялікшай хвалі нацыянальна-культурнага адраджэння беларусаў, у час унікальнага энтузіязму народа, яго духоўнага ўздыму. Вяртаецца ў час надзей, веры і мараў.***

Эпісталярная спадчына дае нам шмат новых і цікавых матэрыялаў аб непасрэднай і актыўнай працы Якуба Коласа на карысць нацыянальнага адраджэння. Вопытны педагог, вядомы беларускі пісьменнік, Якуб Колас не мог застацца ў баку ад гэтай вялікай грамадзянскай справы. Таму, калі летам 1923 года па ўсіх павятовых гарадах Беларусі Наркаматам асветы былі арганізаваны палітычна-педагагічныя курсы для настаўнікаў пачатковых школ, Колас прыняў прапанову прачытаць у Слуцку лекцыі па методыцы і граматыцы роднай мовы.

Вельмі ўразілі Коласа арганізацыя працы курсаў і ўмовы іх правядзення, якія спрыялі як найлепш разумнаму і ўдумліваму ажыццяўленню, па словах Канстанціна Міхайлавіча, «вельмі сталай і ўважліва распрацаванай Наркамасветаю праграмы курсаў». У артыкуле «Слуцкія курсы» аўтар дае падрабязную гістарычную даведку пра курсы 1923 года: «Слуцкія настаўніцкія курсы адчынены 29 чэрвеня. На чале курсаў стаіць курсавая рада. Яе склад: загадчык курсаў, лектары, групаводы, прадстаўнікі ад саюза працаўнікоў асветы, аддзела асветы і прадстаўнік ад слухачоў.

Усіх курсантаў 157 чалавек. У гэты лік уваходзяць 20 вольных слухачоў. Настаўнікаў на курсах 107 чалавек, настаўніц 50.

Апрача асноўных лекцый (гісторыя рэвалюцыйнага руху, палітэканомія, навука аб дзяржаве, гісторыя матэрыялізму, прыродазнаўства, гігіена і беларуская мова і методыка роднай мовы) рада курсаў адводзіць час і для спецыяльных дакладаў, як, напрыклад, даклад інспектара сацвыху Смягельскага "Працоўныя метады ў школе" і даклад другога інспектара Каспяровіча "Дынаміка школьных сістэм". Дадаткова адведзены гадзіны і на лекцыі па прафесійнаму руху і па гісторыі рэлігіі. Пераважная частка курсантаў і курсантак жыве ў памяшканні другой сямігадоўкі (былая гімназія), дзе і адбываюцца заняткі на курсах».

Якуб Колас у адным з лістоў той пары да жонкі Марыі Дзмітрыеўны вызначае спецыфіку курсаў як тэрміновую насычаную праграму перападрыхтоўкі настаўніцкіх кадраў. Ён з задавальненнем адзначае, што само настаўніцтва аказалася падрыхтаваным для такой напружанай працы, якая запатрабавала максімуму сабранасці і адданасці справе, выявіла сталасць і сур'ёзнасць падыходу да навукі. Такім чынам, на падставе акрэсленага гістарычна аб'ектыўнага матэрыялу можна зрабіць вывад, што Слуцкія настаўніцкія курсы па сваёй арганізацыйнай спецыфіцы і практычнай рэалізацыі, інфармацыйнай насычанасці і творчаму патэнцыялу выкладчыкаў і курсантаў былі, безумоўна, магутным каталізатарам новай урадавай палітыкі «беларусізацыі».

Канстанцін Міхайлавіч вельмі хваляваўся, ці зможа прынесці карысць у такой важнай справе. Сціпласць і адказнасць за сваю працу, за яе вынікі прымушаюць нанова перачытваць граматыку беларускай мовы. Але ёсць і іншая прычына хваляванняў. Коласу не вельмі хацелася ў летнюю спякоту ехаць на часовую працу ў Слуцк на цэлы месяц, бо яшчэ да ад'езду ён зняў для Марыі Дзмітрыеўны і дзяцей хату ў Антонаўцы. Сюды ж далучаліся праблемы са здароўем: год таму адпачываў ён з сям'ёй у Сёмкаве, потым пяць тыдняў лячыў язву страўніка. Прыйшлося кінуць курыць. Існавала і летам 1923 года небяспека захварэць у Слуцку пасля казёнага харчу ў сталовых. Але Канстанцін Міхайлавіч добра разумеў, што вялікая кагорта настаўнікаў чакала ад яго, дзеяча беларускай культуры, асаблівых слоў, яркіх, цікавых і змястоўных лекцый. Трэба было апраўдаць іх надзеі, пагаварыць шчыра аб надзённых задачах адукацыі і станаўлення новай нацыянальнай культуры.

**І. БАРСУКОВА**

*(Працяг будзе)*



*Я. Колас, І. Гурскі, Я. Купала і А. Толстой у прэзідыўме сходу. прысвечанага беларускай літаратуры (Масква, 1939 г.)*

*(Працяг. Пачатак у №№ 3–32)*

Разам з Я. Карскім, Я. Купалам і іншымі ў склад сапраўдных яго членаў увайшоў і ён, затым працуе ў літаратурна-даследчай камісіі і просіць Я. Карскага скласці для камісіі навуковыя рэкамендацыі па зборы вуснай народнай творчасці. Як пазней успаміналі тагачасныя сведкі, Колас у камісіі працаваў шмат і, «здавалася, не стамляўся». У красавіку ў Беларускім дзяржаўным універсітэце было праведзена ўрачыстае пасяджэнне, прысвечанае абмеркаванню творчасці Якуба Коласа. Сярод дакладаў, якія прачыталі вядомыя літаратуразнаўцы і мовазнаўцы, тады яшчэ не асцерагаліся вылучаць такое: «Якуб Колас як нацыянальны беларускі паэт». Выдаў зборнік вершаў «Водгулле», напісаў каля дзесятка новых раздзелаў «Новай зямлі».

*1923 год.* На пачатку яго паэма «Новая зямля» была фактычна закончаная (асобнае яе выданне пабачыць свет у чэрвені), разам з гэтым яго чакаў і яшчэ адзін вялікі поспех – заканчэнне аповесці «У палескай глушы» (выйдзе ў Вільні ў маі), што стане буйным укладам у беларускую прозу. Таму, калі ў ліпені ён будзе чытаць лекцыі ў Слуцку на педагагічных курсах, настаўнікі сустрэнуць яго, аўтара гэтых і іншых папулярных твораў, вельмі ўважліва і пашанотна. Як пазней, у жніўні-кастрычніку, будуць з захапленнем чытаць у «Полымі» артыкул М. Байкова «Паэма "Новая зямля" як манументальны твор беларускай паэзіі», што стаўся першым прафесійным аналізам Коласавага твора. Ужо тады было засведчана, што гэта «нацыянальная беларуская паэма», «класічны твор беларускага прыгожага пісьменства», «яна сведчыць аб поўным развіцці паэтычнага таленту аўтара, у каторым, як у фокусе, адбіваецца росквіт здольнасцей беларускай нацыі», «цяпер ад манументальнага эпічнага твора шлях развіцця беларускай паэзіі ідзе да закончанага беларускага рамана». На жаль, пры гэтым аўтар артыкула падаў і фальсіфікатарскі прыклад і для іншага разгляду «Новай зямлі», агаварыўшыся, што твор не рэвалюцыйны, а дробнабуржуазны (у студзені наступнага года ў тым жа выданні І. Замоцін у артыкуле «Пуціны беларускай літаратуры» паспрабуе адхіліць ад паэмы закіды вульгарна-дагматычнай крытыкі, падкрэсліўшы, што мары герояў «аб шматку зямлі» – не проста сялянская туга па сваёй уласнасці: не, яна запала ў сэрца беларуса, «як промень волі і свабоды», бо з ёю звязаны нястрымны парыў да творчае працы і наогул да новага быту).

Восенню Колас пачынае перарабляць паэму «Сымон-музыка», а са снежня пачынае працу выкладчыкам беларускай мовы ва ўніверсітэце. А на пачатку новага, 1924, года, апрача творча-навуковых, умацоўвае і свае грамадзянскія пазіцыі: прысутнічае на V Усебеларускім з'ездзе Саветаў з правам рашаючага голасу.

*Старонку вядзе пісьменнік Генрых ДАЛІДОВІЧ*





# Шклоў турыстычны: перадумовы развіцця

## Спроба аналізу

*Дзе б ні была я, да цябе вярнуся,*
*Мой любы Шклоў – утульнасці куток.*
*Тут нарадзілася і вельмі ганаруся*
*Табою, невялічкі гарадок.*

*Усё прыгожа тут – і вуліцы, і людзі,*
*Прыемна бачыць сэрцаў дабрыню.*
*Любоў к табе была, і ёсць, і будзе!*
*Прымі, мой Шклоў, пачуццяў тысячыню...*

**Любоў Курбацкая**



Рэканструкцыя Шклоўскага замка

Шклоў можа быць характэрным прыкладам малога гарадскога пасялення, перспектыўнага ў плане развіцця турызму. Вядомая даследчыца доктар гістарычных навук Вольга Ляўко на падставе археалагічных і пісьмовых дадзеных сцвярджае, што ён узнік у X ст. і тры разы мяняў сваё месцазнаходжанне. Першапачаткова горад размяшчаўся на вядомым з канца XIX ст. гарадзішчы каля сучаснай в. Стары Шклоў на левым беразе р. Серабранкі. Сёння гэты помнік археалогіі і гісторыі заварожвае наведвальнікаў магутнымі абарончымі ўмацаваннямі, крутымі схіламі, прыгажосцю наваколляў. Археолагамі выяўлены фрагменты керамічнага посуду X–XVI стст., шкляных бранзалетаў XII–XIII стст. як мясцовай вытворчасці, так і прывезеных з Візантыі і Кіева.

Падзеі 1535 і 1537 гг., вядомыя па пісьмовых крыніцах, у выніку якіх Стары Шклоў быў спалены расійскім войскам Васіля Шуйскага, адбываліся менавіта на старашклоўскім гарадзішчы.

У другой палове XVI ст. горад Шклоў размяшчаўся на тэрыторыі сучаснай в. Рыжкавічы і складаўся з дзвюх частак: замка і «места». Шклоўскі замак на працягу 2002–2006 гг. даследавала Вольга Ляўко. Былі раскапаны каменная вымастка гаспадарчага дома, фрагментыназіральнай вежы, некаторыя часткі абарончых збудаванняў замка.

Уражвае колькасць знойдзеных артэфактаў (каля 16 000), якімі папоўніліся фонды Шклоўскага раённага гісторыка-краязнаўчага музея. Сярод знаходак – фрагменты глінянага посуду (гаршчкі, міскі, талеркі, макотры), шкляной вытворчасці (бутлі, скляніцы, чаркі, кварты, аконнае шкло і інш.), прадметы асабістага карыстання (люлькі, медальён), імпартны посуд і інш.

На тэрыторыі «места Шклоўскага» Вольгай Ляўко археалагічна даследаваны фундаменты Уваскрасенскай царквы, якая пасля пажару 1690 г. была адноўлена ў 1701 г. на ўласныя сродкі мясцовага купца Васіля Аўсеевіча. Пад каменным фундаментам былі знойдзены рэшткі згарэлай драўлянай царквы разам з пахаваннямі ў так званым падполлі.

Акрамя Уваскрасенскай царквы ў «месце Шклоўскім» размяшчаўся дамініканскі манастыр. Археолаг Лідзія Марковіч даследавала фрагменты адной з пабудоў на яго тэрыторыі. Пабудова прадстаўлена часткай сцяны памяшкання і фундаментам, агульнай вышынёй 2,8 м, падлогай, выкладзенай тэракотавай пліткай. Каля сцяны знойдзены два пахаванні.

З 1568 г. – цэнтр Шклоўскага графства (тытул графа «на Шклове» атрымаў ад вялікага князя Жыгімонта Аўгуста Іван Хадкевіч). У сярэдзіне XVI ст. Шклоў належаў да тых нешматлікіх прыватнаўласніцкіх гарадоў, дзе не было мытнай канторы. Гэта прываблівала гандляроў, і ўладальнікі горада ды гарадскі магістрат мелі вялікія прыбыткі. У першай палове XVII ст. Шклоў па памерах і колькасці насельніцтва займаў сёмае месца сярод гарадоў ВКЛ. Тут існавалі 2 рынкі, дзе побач з гандлярамі мелі свае крамы рамеснікі. У Шклове было 11 рамесніцкіх цэхаў.

У 1577 г. Шклоў атрымаў магдэбургскае права, пячатку і герб (у блакітным полі рука, якая трымае срэбны бязмен), якія былі пацверджаны 10 красавіка 1762 г.

Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772 г.) Шклоў у складзе Расійскай імперыі, у 1773 г. за 450 тыс. рублёў выкуплены для царскага фаварыта князя Р. Пацёмкіна. У 1773–1777 гг. – цэнтр павета Магілёўскай губерні. З 1777 г. – мястэчка, цэнтр воласці Магілёўскага павета. У 1778 г. Шклоў атрымаў ва ўладанне фаварыт імператрыцы Кацярыны II Сямён Зорыч. Менавіта ў гэты перыяд узнікла выказванне: «Магілёў, што каля Шклова». У той час значную частку насельніцтва Шклова складалі яўрэі. У 1783 г. тут была створана першая ў Беларусі яўрэйская друкарня. Пасля смерці Зорыча апекуном мястэчка прызначаны сенатар Г. Дзяржавін.



Шклоўскі кадэцкі корпус

У пачатку XIX ст. Шклоў – важны гандлёвы цэнтр, прыстань на Дняпры, пазней яго эканамічнае значэнне паменшылася. У сярэдзіне стагоддзя тут адбываліся 2 штогадовыя кірмашы. У пачатку XX ст. праз Шклоў прайшла чыгунка Орша–Магілёў. З 1919 г. Шклоў – у складзе РСФСР, з 1924 г. – у БССР, з ліпеня 1924 г. – цэнтр раёна, з ліпеня 1925 г. – горад. У час Вялікай Айчыннай вайны з ліпеня 1941 г. акупіраваны нямецкімі войскамі. Вызвалены ў чэрвені 1944 г. войскамі 2-га Беларускага фронта.



Цэнтр сучаснага Шклова

Ў гісторыю Шклова ўпісаны імёны многіх знакамітых асоб. Першым, вядомым па пісьмовых крыніцах пачатку XVI ст., уладальнікам шклоўскіх зямель з'яўляўся Альбрэхт Марцінавіч Гаштольд, віленскі ваявода і канцлер ВКЛ. З 1541 г. шклоўскі маёнтак ужо належаў яго сыну – Станіславу, наваградскаму ваяводу і апошняму прадстаўніку гэтага роду.

У сярэдзіне XVI ст. уладальнікамі шклоўскіх зямель сталі магнаты Хадкевічы. Вядома, што ў 1564 г. Ян Геранімавіч, жамойцкі староста, віленскі кашталян і вялікі маршалак ВКЛ, і яго брат Геранім атрымалі пацвярджальную грамату караля Жыгімонта Аўгуста на замак Шклоў з дварамі і месцамі (бацькоўскую выслугу). Пасля смерці Яна Хадкевіча Шклоўскае графства перайшло да яго сыноў: Аляксандра і Карла. Справы ў воласці і замку вёў Аляксандр. Менавіта ён фундаваў Дамініканскі касцёл у «месце Шклоўскім», заснаваў мястэчка Александрыю. Ад Аляксандра Шклоўскае графства перайшло трохгадоваму ўнуку, маці якога Ганна Еўфрасіння была жонкай Пракопія Сяняўскага. Пасля іх смерці спрэчка паміж Хадкевічамі і Сяняўскімі з-за Шклоўскага графства скончылася на карысць апошніх.

У 1643 г. уладальнікам маёнтка быў каронны харунжы Адам Геранім Сяняўскі, крыху пазней – яго сын Мікалай і ўнук Адам.

У 1731 г. апошняя прадстаўніца роду Сяняўскіх Марыя Соф'я, дачка Адама, прынесла ў пасаг Аўгусту Чартарыйскаму 17 валасцей і 5 староставаў, якія пазней перайшлі яго сыну Адаму. Менавіта Адам Чартарыйскі задумаў пашырэнне забудовы горада, якое пачалося пасля пажару 1769 г. у Шклоўскім замку і «месце». Імператрыца Кацярына II пакінула яму ў якасці староства шклоўскія ўладанні, акрамя Новага Шклова, які з 1778 г. валодаў Сямён Гаўрылавіч Зорыч (Неранчыч; 1743 або 1745 – 1799) – рускі ваенны дзеяч, генерал-лейтэнант. Ён нарадзіўся ў Сербіі. У мястэчку Шклоў заснаваў вядомыя Шклоўскія мануфактуры, шляхецкае вучылішча (кадэцкі корпус), тэатр, балетную і музычную школы.

Шляхецкае вучылішча заснавана ў 1778 г. для дзяцей збяднелай шляхты. Да 1797 г. тут падрыхтавана да службы 265 кадэтаў. Выкладаліся: Закон Божы, матэматыка, мовы, гісторыя, геаграфія, маляванне і ўдасканаленне ваенная тэхнікі, фехтаванне, танцы, верхавая язда, музыка. У вучылішчы былі бібліятэка, музей, карцінная галерэя. Існавалі таксама прыгонны аркестр, тэатр з балетнай трупай, музычная каманда. Дзейнічаў шпіталь. Паводле хадайніцтва фундатара выхаванцы ўладкоўваліся на ваенную ці цывільную службу, а з 1785 г. іх адразу пасля заканчэння вучобы ўзводзілі ў ранг афіцэраў. Пасля таго, як С. Зорыч выйшаў у адстаўку, вучылішча ў 1797 г. было перададзена ў казённае ведамства. У 1799 г. атрымала назву Шклоўскі кадэцкі корпус. У ліпені 1800 г. у Шклове адбыўся апошні выпуск афіцэраў – 60 чалавек. Установа праіснавала да 1918 г. пад рознымі назвамі: Гродзенскі кадэцкі корпус (1800–1807), Смаленскі кадэцкі корпус (1807–1824), Маскоўскі кадэцкі корпус (1824–1837) і інш.

(Заканчэнне на стар. 6)





*(Заканчэнне. Пачатак на стар. 5)*

Тэатр існаваў у 1778–1800 гг. Складаўся з прыгонных спевакоў, драматычных акцёраў і музыкантаў-інструменталістаў, да якіх далучаліся аматары, навучэнцы шляхецкага вучылішча і гастралёры-іншаземцы. Паказы адбываліся ў спецыяльна пабудаваным у 1780 г. тэатральным будынку і ў залах пры аранжарэі. Рэпертуар складалі алегарычныя балеты з харамі, міфалагічныя пантамімы, камедыі і трагедыі, камічныя оперы. У балетах танцавалі навучэнцы Шклоўскай балетнай школы, кадэты шляхецкага вучылішча. Лепшыя салісты ў 1800 г. перададзены ў балетную трупу Пецярбургскіх імператарскіх тэатраў.

Пры тэатры існавалі балетная і музычная школы. Сярод навучэнцаў балетнай школы былі прыгонныя з навакольных вёсак і кадэты Шклоўскага шляхецкага вучылішча, сярод навучэнцаў музычнай школы – прыгонныя са Шклова і яго навакольляў. Ігры на музычных інструментах навучалі спецыяльна запрошаны прафесійныя педагогі і амаль усе музыканты, якія наведвалі Шклоў з канцэртамі.

З навучэнцаў былі створаны рагавы аркестр (рог – музычны або сігнальны інструмент у выглядзе сагнутай трубы з пашыраным канцом). Пасля 1781 г. прыгонныя ўваходзілі ў тэатральны аркестр, які спачатку складаўся з іншаземцаў. З 1781 г. капельмайстар беларус П. Пётух вучыў вакальнаму майстэрству хлапчукоў, якія потым спявалі ў тэатральным хоры.

У канцы XIX ст. міністр шляхоў зносін Расійскай імперыі Апалон Крывашэін (1833–1902) купіў Шклоўскі маёнтак у памешчыка Ваейкава. У 1898 г. ён пабудаваў у Шклове кардонную фабрыку – сучасная фабрыка «Спартак». У 1902–1903 гг. ініцыяваў закладку парку, які па праве лічыцца ўнікальным упрыгажэннем горада (помнік садова-паркавага мастацтва пач. XX ст.). Яго насаджэнні складалі мясцовыя віды, у аранжарэях і на клумбах вырошчвалі экзатычныя расліны. Цэнтрам кампазіцыі з'яўляўся аднапавярховы прысядзібны дом, пабудаваны з дрэва і пакрыты пакатым вальмавым дахам, які, на жаль, не так даўно згарэў.

# Шклоў турыстычны

У сучасным Шклове захаваліся помнікі гісторыі і архітэктуры, будынкі храмаў, жылыя дамы (XVIII і канец XIX стст.), будынак папяровай фабрыкі (1898 г.), Спаса-Праабражэнская царква (пачатак XX ст.), касцёл (канец XIX – пачатак XX ст.), будынак сінагогі (другая палова XVII ст.) і асабняк (пачатак XX ст.). Цэнтр горада ўпрыгожвае адрэстаўраваны двухпавярховы будынак ратушы (XVII ст.) з высокай гранёнай вежай, у якой цяпер знаходзіцца гімназія і краязнаўчы музей.



Каменныя крыжы каля Спаса-Праабражэнскай царквы

Падарожжа па гістарычных мясцінах Шклова можа быць працягнута па яго наваколлі – напрыклад, на базу адпачынку «Лысая гара», пабудаванай у стылі старажытнага драўлянага дойлідства на Ніжнінскім рове – помніка ледніковага перыяду. Тут можна назіраць унікальную прыродную з'яву – агаленне геалагічнага пласта блакітнай гліны. Відавочна, што на яго падставе ў дадатак да існуючай базы адпачынку перспектыўна стварэнне музея прыроды. Ён мог бы прымаць турыстаў круглы год.



Сядзіба Крывашэіных

Шклоўшчына і сам горад Шклоў – мясціны, дзе нарадзіўся і шмат гадоў працаваў першы Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь. Распрацаваны маршруты з Оршы, Магілёва – «На радзіму Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь», «Малая Радзіма».

Асаблівае месца ў Шклове займаюць падзеі культурнага жыцця. Горад яшчэ памятае фестываль «Дажынкі-2000». А 2 верасня 2007 г. Шклоў прымае гасцей на Дні беларускага пісьменства.

Ёсць у Шклове яшчэ адна цікавая культурная адметнасць: у жніўні 2006 г. прайшло свята, прысвечанае агуркам, якімі славіцца Шклоўскі раён. Пасля яго ў Шклове вырашылі ўстанавіць помнік гэтай гародніне. 28 ліпеня 2007 года адбылося ўрачыстае адкрыццё помніка агурку на плошчы перад Домам культуры.

А 26 жніўня 2007 г. у гарадскім парку ўстаноўлены помнік Сямёну Зорычу. Гэтую персону і яе ўнёсак у развіццё горада адлюстраваў аўтарскі калектыў у складзе скульптараў У. Слабодчыкава і А. Варвашэні, архітэктара Ю. Градава.

Шклоў, малы горад з багатай гісторыяй і сярэднім турысцка-экскурсійным патэнцыялам, тыповы для Беларусі. Інтэнсіўнаму выкарыстанню гэтага патэнцыялу перашкаджае недастатковы ўзровень развіцця турысцкай інфраструктуры і рэкламна-інфармацыйнага забеспячэння. Канечне, сёння цяжка параўнаць яго турысцкую прывабнасць, напрыклад, з Мірам і Нясвіжам. Таму зразумела, што перад зацікаўленымі ўстановамі сёння стаіць задача выпрацоўкі механізмаў уключэння шклоўскага турысцкага прадукту ў агульнарэспубліканскі рынак турпаслуг. Тым самым забяспечваецца выкананне задач, пастаўленых урадам краіны па развіцці турызму. Для дасягнення гэтай мэты ў першую чаргу неабходна выкарыстаць перадавыя інавацыйныя тэхналогіі. Але гэта ўжо тэма для наступнай публікацыі.



Касцёл

*Вылучаючы ў якасці перспектыўных напрамкаў развіцця турызму ў г. Шклове і яго наваколлі пазнавальны, транзітны і трансмяжовы, падзейны, спартыўны і дзелавы турызм, асноўнымі бар'ерамі на шляху эфектыўнай арганізацыі турысцкай дзейнасці можна назваць праблемы эканамічнага, маркетынгавага і кадравага забеспячэння.*

*Актуальнай з'яўляецца прапанова комплекснага турысцка-экскурсійнага абслугоўвання на падставе не аднадзённых, а больш працяглых тураў. Перадумовамі для гэтага могуць быць развіццё адпаведнай інфраструктуры, якая б забяспечыла даступныя паслугі па размяшчэнні, харчаванні, і дапоўнены сэрвіс. Аднак, на наш погляд, пакуль што інвестыцыйны клімат рэгіёну ў сферы турызму не з'яўляецца дастаткова прывабным для прыватных інвестараў. Бачыцца, што пытанні фінансавання могуць быць вырашаны толькі шляхам каардынацыі намаганняў рэспубліканскіх і мясцовых органаў кіравання з прыватным сектарам, а таксама шляхам прыцягнення замежных інвестыцый.*

*Спроба кароткага аналізу на прыкладзе г. Шклова паказвае, што ў рамках маркетынгавага аспекту з мэтай эфектыўнага прасоўвання турысцкага прадукту, на наш погляд, неабходна асаблівую ўвагу звярнуць на:*

- *фарміраванне маршрутаў і праграм для розных катэгорый наведвальнікаў. Распрацоўка на гэтай аснове турпрадукту для прасоўвання на беларускі і міжнародны турыстычны рынак. Адным з новых маршрутаў можа быць экскурсія па тром гістарычным цэнтрам Шклова. Першы з іх – гэта гарадзішча каля в. Стары Шклоў, другі – Шклоўскі замак каля в. Рыжкавічы, трэці – сучасны горад Шклоў. Улічваючы дастатковую даследаванасць гісторыі помніка на базе замчышча, магчыма стварэнне Музея пад адкрытым небам, у якім турысты маглі б убачыць натуральную рэканструкцыю замка XVI–XVIII стст. і адпаведныя знаходкі;*
- *выданне інфармацыйна-рэкламных матэрыялаў (брашур, буклетаў, карт, плакатаў, відэафільмаў), у тым ліку і на замежных мовах);*
- *распрацоўку спадарожных матэрыялаў: сувенірнай прадукцыі, каталогаў, карт;*
- *распаўсюджванне інфармацыі і рэкламы праз сетку інтэрнэт;*
- *стварэнне інфармацыйнай базы дадзеных па турах і маршрутах, сродках размяшчэння транспарту і гісторыка-культурных каштоўнасцях.*

*Абагульняючы вышэйсказанае, трэба адзначыць, што індустрыя турызму, безумоўна, з'яўляецца важным фактарам сацыяльна-эканамічнага развіцця, у тым ліку за кошт стварэння новых працоўных месцаў, прычым не толькі на падставе турысцкага напрамку, але і ў абслугоўваючых яе вытворчасцях. Аднак, гаворачы пра кадравае забеспячэнне, трэба адзначыць, что недастатковая кваліфікацыя работнікаў сферы паслуг, а часам і адсутнасць у іх элементарнай культуры, робіцца перашкодамі на шляху набыцця кліентам тавару ці паслугі. Для паляпшэння кадравага забеспячэння мэтанакіраванымі, на наш погляд, будуць наступныя мерапрыемствы:*

- *распрацоўка і рэалізацыя праграм навучання персаналу з мэтай павышэння яго кваліфікацыі;*
- *падрыхтоўка і выданне метадычных і вучэбных матэрыялаў;*
- *правядзенне семінараў, трэнінгаў для працаўнікоў індустрыі турызму і прыватных прадпрымальнікаў.*

***Нягледзячы на ўяўную падобнасць Шклова на шэраг іншых малых гарадоў Беларусі, ён з'яўляецца ўнікальным аб'ектам для ўключэння ў турысцкія маршруты. Выдатная забяспечанасць рэкламнымі, фінансавымі сродкамі, развітай сферай паслуг вызначыла б попыт на наведванне Шклова гасцямі горада і Беларусі.***

*Сяргей АНЦУХ,*
*студэнт 3-га курса аддзялення турызму факультэта міжнародных адносін БДУ*





*Андрэй ФЕДАРЭНКА*

# Бульбашы

*У суддзі ў кабінеце, каля дзвярэй, стаіць метра паўтара ростам, але спраўны, пругкі, як мячык, мужчына і – гэта не мастацкая дэталь, а чыстая праўда! – камечыць у руках кепку.*

*– Янковіч, апошні раз пытаю – чаму вы кралі каўбасу? – стомлена кажа суддзя, мілавідная бялявая жанчына.*

*– А я вам паўтараю – я не краў каўбасу. І хто мне яе падсунуў?! – здзіўляецца зваўчана Янковіч.*

*Акрамя Янковіча на крэслах паўз сцяну сядзяць яшчэ падсудныя: жанчына ў гадах, абвязаная вязковай хусткаю пад самую бараду, і прыгожа апранутая красуня дзяўчына.*

*Справа іхняя ясная, як дзень белы. Гэтыя жанчыны, кладаўшчыцы з каўбаснага цэха, дамовіліся з шафёрам Янковічам украсці кілаграмаў трыццаць сухой каўбасы, але на прахадной Янковіча тармазнулі. На следстве яны расказалі ўсё чыста: і як кралі, і як піхалі каўбасу пад сядзенне ў машыне, і як збіраліся потым дзяліць, але на судзе, невядома чаму, панеслі раптам такую лухту, што вушы пухлі.*

*– Як я магла красці, калі я хадзіла ў туалет? – кажа дзяўчына.*

*– А я нідзе ні была, нічога ні знаю, – кажа жанчына ў гадах.*

*– Як разумець вашыя словы, напісаныя месяц назад? – суддзя знаходзіць у папцы і чытае: – «Я зайшла ў каўбасны цэх, узяла тры палкі каўбасы, вынесла да машыны, потым вярнулася і ўзяла яшчэ шэсць...»*

*– Мала што следавацель мог напісаць!*

*– Вас трэба караць без усялякай каўбасы – за адно тое, што вы з нашымі галовамі робіце, – кажа суддзя, ківаючы на засядацеляў. – Вось як, такіх, судзіць? Пазваць зараз людзей з вуліцы, ці што? Дык яны ж вас затаўкуць тут, дзесяць гадоў такой каўбасы ў вочы не бачыўшы! Ну, маўчыце. Я аб'яўляю перапынак. Калі захочаце трохі падумаць, тым лепш будзе для вас.*

*Курачы на ганку каля ўвахода ў суд, малады, патрыятычна настроены засядацель убачыў Янковіча і, азірнуўшыся па баках, хуценька падышоў да яго.*

*– Дзядзька, ну што вы робіце?! Што ж вы так пад сябе капаеце?! Прызнавайцеся! І тады толькі штраф будзе, ну, з вымовамі... Інакш улепяць па два гады папраўчых!*

*– Н-у – пасадзяць, ці што?*

Што ж мы, бульбашы, такія цвердалобыя, недаверлівыя? Хто ж нам паможа, калі мы адзін аднаму не паможам?

*– Не пасадзяць, а будуць вылічваць з заробку дваццаць пяць працэнтаў, а галоўнае – гэта лічыцца як судзімасць!*

*– Ну?*

*– Я вам кажу. Што ж мы, бульбашы, такія цвердалобыя, недаверлівыя? Хто ж нам паможа, калі мы адзін аднаму не паможам?*

*– Мусіць, такі праўда, – сказаў Янковіч і пашкроб у патыліцы. – Я ўжо і сам бачу, што сабе горш робім... Трэба прызнавацца, ды хай будзе, як будзе...*

*Скончыўся перапынак, зайшлі ўсе ў кабінет.*

*– Ну, Янковіч?.. – з надзеяй пытаецца мілавідная суддзя.*

*– Я... нідзе не быў, нічога не бачыў, – адказвае Янковіч – позірк долу, і кепка ў рухавых далонях.*

*– А я хадзіла ў туалет.*

*– А я нічога ні пісала – мала што нехто там панапісваў.*

*– Ідзіце ў калідор! – махае суддзя рукою. – Але наперад магу сказаць – я вам уляплю, колькі па гэтым артыкуле можна! Бульбашы...*

*1994 г.*

# Ваба вачэй

Упершыню я пачуў згаданае выслоўе ў вёсцы Канюхі на Маладзечаншчыне. Мой даўні знаёмы, светлай ужо памяці Язэп Ярмаковіч, улюбёны ў жыццё, у Бога, неяк разважаючы пра восень, пра тую яе пару, калі ўсё наўкола становіцца рознакаляровым, сказаў:

– Восень – гэта ваба вачэй маіх.

Мой слых з усяго гэтага выхапіў два словы, і няцяжка здагадацца, якія. Тут жа прыгадалася пушкінскае: «Очей очарование». «Ваба вачэй» – гэта ж цудоўны адпаведнік пушкінскаму выслоўю, вобразу!

Вядома ж, я тут жа пацікавіўся, як гэта пушкінская фразема перадаецца па-беларуску. У перакладзе Аркадзя Куляшова, прыкладам, яна прагучала так: «Маркотная пара! Вачэй замілаванне!»

Што ж, няблага. І мілагучна, і меладыйна. Але ведайма, што наша мова мае і яшчэ адзін адэкватнік для пушкінскага «очей очарование» – «ваба вачэй».

Ці будзе ў мяне яшчэ калі якая нагода згадаць колькі слоў пра Язэпа Ярмаковіча. А зараз жа, мусіць, вельмі дарэчы. Ён быў улюбёны ў нашу Беларусь, у нашу мову. Яму пашчасціла мець за свайго настаўніка Купалавага сябру Андрэя Посаха. Вучыў яго адзін год і Рак-Міхайлоўскі. Добрыя ў яго былі настаўнікі. Але і сам Язэп Ярмаковіч з прыроды меў чуйную да слова душу. Зрэдку на яго находзіла натхненне. Тады ён, як умеў, гаварыў свае думкі паэтычным словам. Не ведаю, ці ён сам стварыў гэтую «вабу вачэй», ці пачуў ад каго, але праз яго пускаем у свет гэтае прыгожае, паэтычнае выслоўе.



У Беларусі шмат месцаў пры-*вабных*. Адно з іх –Вязынка

*Фота Таццяны МАТУСЕВІЧ*

Што ж да самога слова «ваба», яно ў нашых нарматыўных слоўніках не значыцца. Ёсць «вабіць», «вабік», «вабнасць», «вабны», «прывабны», «завабіць», нават «вабельчык», а «вабы» няма.

Ці ж нядзіўна гэта?

Праўда, слова «ваба» засведчана «Этымалагічным слоўнікам беларускай мовы». І не толькі «ваба», але і «ваб» – пачатковая форма ўсіх слоў, утвораных ад гэтага кораня.

*Уладзімір СОДАЛЬ*

**Землякі ў свеце**

*Барыс БАРОЎСКІ*

# Ураджэнцы Беларусі ў арміі Андэрса падчас Другой сусветнай вайны

**(Працяг. Пачатак у № 29–32)**

У адпаведнасці з вынікамі статыстычнага даследавання беларуса В. Сянькевіча, які эміграваў у ЗША, у польскіх вайсковых фарміраваннях у Заходняй Еўропе, пераважна ў Італіі, ваявала 30867 беларусаў, а згодна з дадзенымі польскага міністра Тарноўскага, у баях у складзе 2-га польскага корпуса ўдзельнічала 12 тыс. беларусаў. Акрамя вялікай колькасці беларусаў у 2-м польскім корпусе, па словах Якуба Конана, «было шмат украінцаў і яўрэяў. Сустракаліся нават рускія. Незалежна ад нацыянальнасці або веравызнання паміж жаўнерамі не было ніякіх непаразуменняў ці сварак. Большасць беларусаў былі праваслаўнымі».

### Дзейнасць вайскоўцаў арміі ў пасляваенны перыяд

Камандаваннем саюзных войск пасля капітуляцыі Германіі разглядаўся варыянт выкарыстання 2-га польскага корпуса для нясення гарнізоннай службы ў Германіі. Аднак канчаткова было вырашана яго пакінуць у Італіі, дзе ён нёс вартавую службу. У канцы 1945 г. сярод вайскоўцаў-беларусаў корпуса, перш за ўсё з мэтай падрыхтоўкі да вяртання на Радзіму, пачаў зараджацца беларускі нацыянальны рух. Воіны-беларусы наладзілі сувязь з радай БНР у Парыжы і таемна атрымлівалі адтуль газету «Беларускія навіны». Па ўспамінах былога жаўнера 5-й крэсавай дывізіі Сенькі Мікалая (родам са Стаўбцоўшчыны), «адзін асобнік газеты пераходзіў з рук у рукі – ад аднаго беларуса да другога. Я разам з іншымі беларусамі-вайскоўцамі адсылаў частку сваіх кішэнных жаўнерскіх грошай у Парыж на выданне гэтай газеты. Здараліся выпадкі, калі польскія камандзіры ў беларусаў гэту газету адбіралі...» Пазней, 15 кастрычніка 1946 г., загадам начальніка штаба корпуса генерала К. Вісьнеўскага быў дадзены афіцыйны дазвол на распаўсюджванне газеты сярод асабовага складу.

У верасні 1946 г. корпус быў перакінуты ў Вялікабрытанію, дзе праходзіў паволны працэс дэмабілізацыі ваеннаслужачых, расфарміравання яго часцей і падраздзяленняў (вайскоўцы набывалі розныя цывільныя прафесіі). З пераездам у Вялікабрытанію беларуская дзейнасць сярод вайскоўцаў актывізавалася. 22 верасня 1946 г. імі была заснавана грамадская арганізацыя – Згуртаванне беларускай самадапамогі ў Вялікай Брытаніі. У канцылярыі адной з дывізій таемна ад камандавання было наладжана друкаванне бюлетэня «На шляху». На яго старонках змяшчаліся інфармацыйныя матэрыялы для воінаў-беларусаў. Для дэмабілізаваных вайскоўцаў, якія сабіраліся эміграваць у краіны Еўропы і Амерыкі, друкаваліся кантактныя адрасы тамтэйшых беларускіх асяродкаў з заклікам наладжваць і падтрымліваць з імі сувязі. Паколькі большасць беларусаў – воінаў 2-га польскага корпуса была запісана палякамі, дзеячы Згуртавання, дзеля аблягчэння вяртання ў Беларусь, заклікалі іх у час дэмабілізацыі патрабаваць ад камандавання ўносіць змены ў асабовыя дакументы з запісам нацыянальнасці: «беларус». З гэтай мэтай быў распрацаваны польскамоўны бланк заявы на імя брытанскага камандавання наступнага зместу: «Сведчу, што ў маёй асабовай справе ў рубрыцы "нацыянальнасць" я запісаны як паляк, што не адпавядае сапраўднасці. Ветліва прашу правесці змену ў вышэйназванай рубрыцы з польскай нацыянальнасці на беларускую». Аднак гэтая акцыя не мела вялікага поспеху.



*Жаўнеры-беларусы 33-га лёгка-артылерыйскага палка легіёнаў: Якуб Конан, невядомы, Міхась Шалкоўскі, Мікола Багуцкі (1939 г.)*

17–19 студзеня 1947 г. у Лондане адбыўся ўстаноўчы з'езд Згуртавання беларусаў у Вялікай Брытаніі (ЗБВБ), на якім прысутнічала не менш за 150 вайскоўцаў-беларусаў, якія ваявалі ў складзе Польскіх узброеных сіл на Захадзе. На жнівень 1947 г. у ЗБВБ налічвалася 237 дэмабілізаваных вайскоўцаў-беларусаў, у тым ліку Фёдар Кажаневіч, Янка Міхалюк, Віктар Сянкевіч, Аляксандр Надсан, Кастусь Акула, Кастусь Нор, Бенедыкт Кляйноў, Павел Асіповіч і інш. Старшынёй ЗБВБ быў абраны ўдзельнік арміі Андэрса Вінцэнт Жук-Грышкевіч (родам з Мядзельшчыны), які потым стаў вядомым дзеячам беларускай эміграцыі – педагогам, літаратуразнаўцам, гісторыкам, доктарам філасофіі. Гэтаксама пасля дэмабілізацыі многія нашы суайчыннікі сталі вядомымі грамадска-палітычнымі і культурнымі дзеячамі беларускай эміграцыі. Па ўспамінах В. Жука-Грышкевіча: «Колькі энтузіязму было тады ў нашай грамадзе! Беларускае жыццё на эміграцыі проста кіпела. Арганізацыі, часопісы і газеты раслі, як грыбы пасля дажджу, у вольных краінах Еўропы і Амерыкі. Мы не толькі жылі, мы гарэлі тым палымяным жыццём беларускага ўздыму на эміграцыі...». Як успамінае Мікалай Сенька, «беларусы-вайскоўцы ліставаліся з іншымі вайскоўцамі, падтрымлівалі сувязь з беларускім асяродкам... Праз нейкі час дэмабілізаваныя вайскоўцы-беларусы, у тым ліку і я, сабралі грошы і набылі ў Лондане жылы дом,назваўшы яго Беларускім Домам, які існуе і дасюль. Гэта рабілася з той мэтай, каб мы мелі магчымасць дзесьці сустракацца, размаўляць, ладзіць супольныя вечарыны і інш... Як былыя вайскоўцы мы мелі права беспярэшкодна выехаць з Англіі ў іншыя краіны свету. Шмат хто з нас падаўся ў Канаду, ЗША, Францыю і інш. Мы ведалі, што вяртацца на радзіму небяспечна.

**(Працяг на стар. 8)**

*(Працяг. Пачатак на стар. 7)*

Аднойчы вырашылі паспрабаваць завітаць у савецкую амбасаду ў Лондане. Абралі аднаго чалавека, які мусіў пад выглядам жадаючага вярнуцца ў Беларусь з'явіцца ў савецкую амбасаду. Ён вярнуўся адтуль і сказаў, што адзін савецкі супрацоўнік адвёў яго ў кут і папярэдзіў: "Падумайце добра, перш чым вяртацца да хаты..." Гэта нас яшчэ больш адштурхнула ад думкі аб вяртанні».

Акрамя ЗБВБ, у 1948 г. былі заснаваны Згуртаванне беларускіх камбатантаў у Вялікай Брытаніі, Хрысціянскае аб'яднанне беларускіх работнікаў, Згуртаванне беларускіх камбатантаў у Бельгіі і інш. Беларускія ваенныя ветэраны на чужыне шанавалі памяць пра палеглых пад Монтэ-Касіна суайчыннікаў, удзельнічалі ў святкаваннях юбілейных угодкаў бітвы за Монтэ-Касіна.



*Жаўнеры-беларусы 2-га Польскага корпуса – пачынальнікі беларускага руху сярод польскіх вайскоўцаў. У першым шэразе: Павал Навара, Аляксандр Лебедзь, Віктар Сенкевіч; у другім: Мікалай Гаховіч, Міхась Яскевіч, Генрых Сянкевіч (1945 г., Італія)*

Савецкі бок з мэтай прыцягнення былых сваіх грамадзян, якія апынуліся ў гады Другой сусветнай вайны ў краінах Цэнтральнай і Заходняй Еўропы яшчэ да капітуляцыі Германіі пачаў праводзіць масавую кампанію па іх рэпатрыяцыі. 23 кастрычніка 1944 г. было створана і дзейнічала да сакавіка 1953 г. Упраўленне Упаўнаважанага Савета Народных Камісараў СССР па справах рэпатрыяцыі грамадзян СССР з Германіі і акупаваных ёю краін. 15 студзеня 1945 г. пачаў працаваць аддзел СНК БССР па справах рэпатрыяцыі грамадзян СССР. Пры аблвыканкамах былі створаны прыёмна-размеркавальныя пункты, куды накіроўваліся вяртанцы, якія да гэтага на мяжы СССР праходзілі праверку ў армейскіх зборна-перасыльных лагерах і праверачна-фільтрацыйных пунктах НКУС. Першыя рэпатрыянты з ліку дэмабілізаваных ваеннаслужачых Польскіх узброеных сіл на Захадзе сталі прыбываць у БССР у другой палове 1946 г. (вярнулася некалькі дзесяткаў чалавек). Са студзеня 1947 г. па снежань 1948 г. у Беларусь праз 312-ы рэпатрыяцыйны лагер у Гродне вярнулася асноўная маса – 695 чалавек. Асобныя вайскоўцы вярнуліся пасля 1948 г. Усяго ў Беларусь у 1946–1948 гг. вярнулася каля тысячы нашых суайчыннікаў.

Па ўспамінах Я. Конана: «Улічваючы неспрыяльны брытанскі клімат і сумуючы па Бацькаўшчыне, я вырашыў дэмабілізавацца з войска і вярнуцца ў Беларусь. Атрымаў 2 камплекты вайсковага абмундзіравання, цывільны касцюм, капялюш і паўгадавы заробак. 4 красавіка 1948 г. трапіў у брытанскі рэпатрыяцыйны лагер. На параплаве дабраўся ў Гданьск і, пасля адпаведнай праверкі, дамоў».

Стаўленне савецкай улады да вяртанцаў было недаверлівым і нядобразычлівым. У фільтрацыйных справах вяртанцаў у рубрыцы «Ці служыў у варожых фарміраваннях» супрацоўнікі рыпатрыяцыйных органаў занатоўвалі, напрыклад: «Служыў у арміі здрадніка генерала Андэрса». У ноч з 31 сакавіка на 1 красавіка 1951 г. органамі МДБ была праведзена масавая акцыя па арышце і дэпартацыі былых андэрсаўцаў (разам з сем'ямі) на спецпасяленне ў Іркуцкую вобласць. Іх маёмасць была канфіскавана, узнагароды адабраны. З сабой было дазволена ўзяць самае неабходнае. Юрыдычнай падставай для высылкі стала пастанова Савета Міністраў СССР № 377-190сс ад 13 лютага 1951 г. Бывалі выпадкі, калі рашэнне аб высяленні і канфіскацыі маёмасці прымалася Асобай нарадай пасля высялення. Некаторых вайскоўцаў прыцягвалі да крымінальнай адказнасці і заключалі ў месцы пазбаўлення волі яшчэ да 31 сакавіка 1951 г. Па ўспамінах былога капрала 5-й дывізіі карпацкіх стралкоў 2-га польскага корпуса І. Жамойдзіна (родам з Валожыншчыны), яго некалькі тыдняў трымалі ў падвале мясцовай турмы, патрабуючы прызнаць сябе англійскім шпіёнам, паколькі валодаў англійскай мовай.

Арышты і высылкі працягваліся да сярэдзіны чэрвеня 1951 г. У якасці абвінавачання дэпартуемых у Іркуцкую вобласць у іх асабовых справах запісваліся такія заключэнні органаў МДБ: «Не браў удзелу ў Вялікай Айчыннай вайне», «Служыў у арміі здрадніка Андэрса...», «Знаходзіўся ў гады вайны за мяжой...»

Вядомыя прозвішчы 888 былых воінаў 2-га польскага корпуса, якія пасля вайны вярнуліся ў Беларусь і былі сасланы ў Сібір, а таксама 40 чалавек сасланых з Літвы і 19 чалавек сасланых з Украіны.

У час ссылкі многія дэпартаваныя пісалі ў розныя інстанцыі аб сваёй невінаватасці, хадайнічалі аб вызваленні са спецпасялення і дазволе на вяртанне дамоў. На падставе пастановы Савета Міністраў СССР №1963-1052с ад 24 верасня 1955 г. большасць «андэрсаўцаў» была знята са спецпасялення, але без права вярнуцца на радзіму і без вяртання канфіскаванай маёмасці. Толькі ў 1956 г. дэпартаваным былым воінам было афіцыйна дазволена вярнуцца на радзіму ў парадку памілавання (без рэабілітацыі). Па вяртанні ў Беларусь некаторыя былыя «андэрсаўцы» былі зноў арыштаваны і на кароткі час пазбаўлены волі органамі МУС БССР. Рэабілітацыя вернутых са ссылкі (без вяртання маёмасці) адбылася ў 1957–1958 гг. пасля рашэнняў Судовай калегіі па крымінальных справах Вярхоўнага суда БССР. Асцерагаючыся праследу ў БССР, 379 беларусаў каталіцкага веравызнання запісаліся палякамі і з Іркуцкай вобласці рэпатрыяваліся ў Польшчу. У 1971 г. Вярхоўны суд БССР прызнаў поўную неабгрунтаванасць дэпартацыі і спыніў крымінальную справу супраць былых «андэрсаўцаў» у сувязі з адсутнасцю ў іх дзеяннях складу злачынства. Рэпатрыяваным грамадзянам у 1972 г. былі зроблены выплаты вартасці канфіскаванай маёмасці. Аднак і пасля гэтага былыя воіны Польскіх узброеных сіл на Захадзе негалосна лічыліся «ворагамі народа» і здраднікамі, праследаваліся ў БССР, не маглі працаўладкавацца па спецыяльнасці, не лічыліся ветэранамі вайны і таму не мелі права на адпаведную сацыяльную дапамогу. Кляймо «ненадзейных савецкіх грамадзян» распаўсюджвалася нават на дзяцей былых «андэрсаўцаў».

*(Працяг будзе)*

# Верасень

**16 – Луцэнка Барыс Іванавіч** (1937), рэжысёр, педагог, акадэмік Міжнароднай акадэміі тэатра, народны артыст Беларусі, заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі, лаўрэат прэміі «За духоўнае адраджэнне» (1997) – 70 гадоў з дня нараджэння.

**17 – Дзяргай Сяргей Сцяпанавіч** (1907, Мінск – 1980), паэт, перакладчык, лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Я. Купалы (1964) – 100 гадоў з дня нараджэння.

**19 – Нацыянальны Полацкі гісторыка-культурны музей-запаведнік** (1967) – 40 гадоў з часу заснавання.

**20 – Каўка Аляксей Канстанцінавіч** (1937, Чэрв. р-н), вучоны-гісторык і літаратуразнавец, грамадскі дзеяч – 70 гадоў з дня нараджэння.

**24 – Літаратурны музей Аркадзя Куляшова** (в. Саматэвічы Касцюк. р-на, 1982) – 25 гадоў з часу заснавання (адкрыты 04.02.1984).

**27 – Міхнюк Уладзімір Мікалаевіч** (1947, Свісл. р-н – 2004), вучоны-гісторык – 60 гадоў з дня нараджэння.

# Малая краязнаўчая энцыклапедыя

*(Пачатак у № 1 за 2003 г.)*

**ГЕЙДЭНШТЭЙН** Рэйнгольд (каля 1556 – 1620) – юрыст, дыпламат, гісторык. З 1582 г. патрапіў на службу караля Польшчы і вялікага князя ВКЛ, апісваў на лацінскай мове падзеі, што адбываліся ў тым ліку і на землях ВКЛ. У прыватнасці, адлюстраваў сваё апісанне вайны Маскоўскай дзяржавы і Рэчы Паспалітай 1578–1582 гг., дзе падрабязна апісаў аблогу і штурм Полацка войскамі Стэфана Баторыя. Таксама выклаў свой погляд на падзеі ў Беларусі ў 1579–1580 гг.

**ГЕРАЛЬДЫКА** – гербазнаўства, сістэма ведаў і правіл складання і карыстання гербамі. Дапаможная гістарычная дысцыпліна, якая на падставе вывучэння гербаў дапамагае вызначыць час стварэння, аўтарства, прыналежнасць адзначаных гербамі твораў мастацтва, гістарычных помнікаў, дакументаў і інш. Цесна ўзаемазвязана з археалогіяй, нумізматыкай, сфрагістыкай, генеалогіяй і іншымі гістарычнымі дысцыплінамі. Рэгламентавала элементы герба, надавала кожнаму пэўны змест і сэнс.

Геральдыка – гэта навука сімвалаў і алегорый. Узнікла са звычаю абвяшчаць перад пачаткам турніра выяву герба рыцара як доказ яго права на ўдзел у спаборніцтве. Першыя творы па геральдыцы – вершы і паэмы паэтаў-герольдаў – пабачылі свет ў 2-й пал. XIII ст. Найбольш старажытны твор па геральдыцы – «Цюрыхскі гербоўнік» 1-й пал. XIV ст. У XIV ст. узніклі герольдыкі – установы, якія займаліся тэарэтычнымі і практычнымі пытаннямі геральдыкі. У XVI–XVIII стст. тэорыю геральдыкі распрацоўвалі і сістэматызавалі вучоныя-геральдысты. З узнікненнем саслоўных манархій права надання і зацвярджэння гербаў стала выключнай прывілеяй каралёў.

На Беларусі пачалі актыўна распаўсюджвацца правілы заходнееўрапейскай геральдыкі пасля Гарадзельскага прывілея 1413 г. Да гэтых правілаў дадаваліся і розныя мясцовыя сюжэты. У XVI–XVII стст. у беларускай літаратуры былі пашыраныя эпікрамы, што пісаліся да гербаў знатных асоб і гарадоў (аўтары А. Рымша, Л. Мамоніч і інш.). Пасля далучэння Беларусі ў склад Расійскай імперыі праекты гербаў беларускіх гарадоў зацвярджалі геральдычная калегія (асноўны малюнак) і вярхоўная ўлада (дадаваўся двухгаловы арол), пазней, з прысваеннем гербаў губерням у гарадскія гербы ўключаліся і губернскія. У Расіі і на Беларусі першыя творы па геральдыцы мелі характар гербоўнікаў – кніг з малюнкамі і апісаннямі гербаў. З 1897 года складаўся «Агульны гербоўнік дваранскіх родаў Усерасійскай імперыі». У 1900-м выдадзены «Аршанскі гербоўнік» і «Гербоўнік Віцебскага дваранства».

У апошнія дзесяцігоддзі на Беларусі выдадзена некалькі розных даследаванняў па геральдыцы. Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь № 441 ад 7 жніўня 2002 г. створаны Геральдычны савет пры Прэзідэнце, які рэгулярна разглядае праекты гербаў і сцягаў адміністрацыйна-тэрытарыяльных адзінак краіны, пасля чаго яны ўносяцца ў Дзяржаўны геральдычны рэгістр Рэспублікі Беларусь. Зараз большасць буйных населеных пунктаў краіны маюць ужо свае афіцыйныя геральдычныя сімвалы.



*Кніга з бібіліятэкі Л. Сапегі з яго гербам на вокладцы*



*Герб Рэчы Паспалітай*

Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Рэгістрацыйнае пасведчанне № 2019 ад 19. 03. 2003 г.
Заснавальнікі: грамадскае аб'яднанне «Беларускі фонд культуры», вытворчае прыватнае унітарнае прадпрыемства «Светач», Гілеп Уладзімір Аляксандравіч.

Краязнаўчая газета

Індэкс індывідуальнай падпіскі – 63320
ведамаснай – 633202

Галоўны рэдактар – Уладзімір ГІЛЕП
Нам. галоўнага рэдактара Генрых ДАЛІДОВІЧ.
Адказны сакратар Уладзімір Пучынскі.
Рэдкалегія: Анатоль Бутэвіч, Андрэй Вірчак, Анатоль Грыцкевіч, Алесь Карлюкевіч, Лідзія Кулажанка, Адам Мальдзіс, Вячаслаў Рагойша, Віталь Скалабан, Віктар Хурсік.

Наш адрас: 220029, г. Мінск, вул. Камунальная набярэжная, 6.
Тэл. 283 28 26, 334 61 62.
Тэл./факс 334-42-03
E-mail: kraga@tut.by



Падпісана да друку: 30.08.2007.
Газета надрукавана ў друкарні ТДА «Знамение» (Мінск, вул. Каржанеўскага, 14).
Ліцэнзія ЛП № 02330/0131538 ад 04.10.2005.
Заказ 1048.
Тыраж 1280 асобнікаў.